Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 14 Вільня, Пятніца, 4-га чэрвеня 1926 г. Год I.

**№ 13 „Беларускае Справы“ з 2-га чэрвеня с. г. сканфіскаваны Камісарам Ураду на м. Вільню панам Вімбарам за гэткія стацьці і заметкі:**

**1) перадавая стацьця „Пасьля выбару“;**

**2) стацьця „Новы этап у разьвіцьці польскага „парлямантарызму“ („Маланкавая“ кандыдацкая прамова Маршалка Пілсудскага перад сваімі выбаршчыкамі—паслamі і сэнатарамі“);**

**3) увесь аддзел „Водгукі перавароту“, які зьмяшчаў заметкі, перадрукаваныя з легальных і несканфіскаваных польскіх газэт: „Аўтаномія“ Пазнаншчыны, Трыумфальнае спатканьне „ўрадавых войск“ у Пазнані, што пішуць у пазнанскіх газэтах, „Зладзеі дзяржаўных грошы“, ці—„заслужаныя абаронцы закону і Канстытуцыі“? Ці быў напад фашыстаў на дом п. Пілсудскага ў Сулеювку?**

**4) заметка „Пілсудскі і нацыянальныя меншасьці“;**

**5) заметка „Праект паўнамоцтваў длх Прэзыдэнта Рэспублікі“.**

**6) заметка „Крэсы“—мейсца ссылкі;**

**7) заметка „Забойства Пятлюры“;**

**8) карэспандэнцыя „Каму што, а нам фіга“ (з Баранавіч).**

# Выбары Прэзыдэнта.

## Прэзыдэнтам выбраны праф. Мосьціцкі— кандыдат маршалка Пілсудскага.

### Галасаваньне 31-га мая.

Пасьля адчыненьня маршалкам Ратаем сходу і выбару прэзыдыуму, Нацыянальны Збор прыступіў да выбару прэзыдэнта рэспублікі.

Былі пададзены дзьве кандыдатуры: **пэпэсы** выставілі кандыдатуру **Марш. Пілсудскага**, эндэкі — пазнанскага ваяводы **Бніньскага.**

Пры падачы галасоў беларускія і украінскія дэпутаты заявілі, што яны ад учасьця ў выбарах устрымліваюцца. Тое-ж заявілі: польскі клюб Незалежнай Хлопскай Партыі і камуністы.

Пасьля падлічэньня галасоў аказалася, што Маршалак **Пілсудскі** атрымаў **292 галасы**, — знача абсалютную большасьць. Ваявода **Бніньскі** атрымаў толькі **193 галасы.** Пустых галасоў (белых картачак) пададзена **61.**

Гэтак выбар паў на Марш. Пілсудскага.

### Адмова марш. Пілсудскага.

Калі марш. Ратай разам з прэм'ерам Бартэлем прыехалі да марш. Пілсудскага паведаміць аб выбары яго на прэзыдэнта, марш. Пілсудскі заявіў, што **выбару ня прыймае** і ад становішча прэзыдэнта адмаўляецца. Пры гэтым марш. Пілсудскі аддаў на рукі марш. Ратая пісьмо гэткага зьместу:

### Пісьмо марш. Пілсудскага.

„Пане Маршалку! Дзякую Нацыянальнаму Збору за выбар. Другі раз у маім жыцьці маю гэткім спосабам залегалізаваньне маіх дзеяньняў і гістарычных прац, якія, на жаль для мяне, спатыкаліся сьпярша з адпорам і няпрыхільнасьцяй даволі шырокай. У кожным разе дзякую ўсім паном, што выбар мой ня быў аднагалосны, як гэта здарылася ў лютым 1919 году: мо менш у Польшчы будзе здрады і фальшу.

„На жаль, прыняць выбару я ня маю магчымасьці. Я ня здолеў выкаяваць сабе забыцьця, ня здолеў выдабыць з сябе акту даверыя і да сябе ў тэй працы, якую ўжо раз рабіў, ані да тых, што мяне на гэтае становішча заклікаюць. Лішне крэпка стаіць мне ў памяці трагічная постаць забітага прэзыдэнта Нарутовіча, якога я ня здолеў усьцерагчы ад жорсткага лёсу. Лішне моцна дзеець на мяне грубая напасьць на маіх дзяцей.

„Не магу не адзначыць яшчэ раз, што ня здолею жыць без беспасрэднае працы, а істнуючая канстытуцыя якраз такую працу адсоўвае і аддаляе ад прэзыдэнта. Залішне многа мусіў-бы я мучыцца і ламаць. На гэта патрэбен іншы характар.

„Перапрашаю за расчараваньне, якое зрабіў ня толькі тым, што за мяне галасавалі, але і тым, што па за гэтай саляй ждалі гэтага ад мяне. Сумленьне, да якога я зварачаўся тысячу разоў, у апошнія дні не дазволіла мне здаволіць гэтыя пажаданьні. Яшчэ раз дзякую за выбар і прашу ўраз-жа, дай Бог шчасьліва, зрабіць выбары прэзыдэнта Рэчыпаспалітай“.

(—) *Язэп Пілсудскі.*

### Галасаваньне 1-га чэрвеня.

Выстаўлены тры кандыдатуры: **праф. Ігната Мосьціцкага** (рэкамэндаванага **марш. Пілсудскім**), дэпутата **Марка** (П. П. С.) і Пазнанскага ваяводы **Бніньскага (эндэка).**

Пры першым галасаваньні Мосьціцкі атрымаў 215 галасоў, Бніньскі — 211, Марэк — 56. Пустых картачак пададзена 63.

З прычыны таго, што ніхто з кандыдатаў не атрымаў абсалютнае большасьці, галасаваньне было паўторана, пры чым кандыдатура Марка адпала. Паміж астаўшыміся двума кандыдатамі галасы падзяліліся гэтак:

Мосьціцкі — 280 галасоў
Бніньскі — 200 „

Такім парадкам

**выбраны за Прэзыдэнта праф. Мосьціцкі.**

# Паведамленьне

*Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ў справе ўчасьця ў выбарах Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі.*

Выбары Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі адбываліся 31 мая і 1 чэрвеня с. г. Былі пададзены гэткія кандыдатуры: пазнанскага ваяводы Бніньскага, маршалка Пілсудскага, прафэсара Мосьціцкага і д-ра Марка.

У першы дзень выбараў былі пададзены дзьве кандыдатуры: Бніньскага і Пілсудскага.

Мы не галасавалі за Бніньска, бо ён зьяўляецца прадстаўніком яўнае рэакцыі, ды ўвасабленьнем фашызму, а ягоная праграма — гэта высыск сялян і работнікаў, ды ўціскаьне так-званых нацыянальных меншасьцяў.

Не далі мы сваіх галасоў і за марш. Пілсудскага дзеля наступных прычын. Пілсудскі абвясьціў і вёў вайну з папярэднім рэакцыйным урадам зусім ня ў імя інтарэсаў сялянска-работніцкіх масаў ды ўцісканых нацыянальнасьцяў, абарона якіх зьяўляецца нашым абавязкам. Ані ў мамэнт свайго аружнага выступленьня, ані ў часе трываньня баёў, ані здабыўшы ўладу—не сказаў Пілсудскі, што хоча дапамагчы сялянам здабыць зямлю бяз выкупу, што маніцца бароцца з высыскам работнікаў капіталам, што жадае даць волю ўцісканым нацыянальнасьцям. Наадварот: здабыўшы ўладу, маршалак Пілсудскі публічна заявіў, што лічыць сваей задачай захаваць надалей істнуючыя сацыяльныя адносіны, крыўдныя для працоўных, што хоча абаперці далейшае істнаваньне Польшчы на тэй „сацыяльнай раўнавазе“, якая цяпер істнуе ў Польскай Рэспубліцы. Да таго-ж—Пілсудскі прадстаўнік мілітарызму, і ў пераходзе ўлады ў яго рукі мы бачым запаведзь павялічэньня падатковых цяжараў на войска ды зачэпнае замежнае палітыкі, што даваляo-бы да вынішчэньня краю і магло-бы выклікаць новую вайну. Урэшце—Пілсудскі зьяўляецца ініцыятарам і староньнікам вайсковага асадніцтва на так-званых „Крэсах“. — Вось дзеля ўсяго гэтага мы і не далі сваіх галасоў марш. Пілсудскаму.

У першы дзень выбараў мы падалі белыя картачкі, — знача, ня прынялі чыннага ўчасьця ў выбарах.

Першага-ж дня маршалак Пілсудскі атрымаў большасьць галасоў і быў выбраны за прэзыдэнта. Аднак, з прычыны таго, што п. Пілсудскі выбару ня прыняў, на 1-га чэрвеня былі назначаны новыя выбары.

Былі пададзены гэткія кандыдатуры: Бніньскага, Мосьціцкага і Марка.

Характар кандыдатуры Бніньскага мы ўжо высьнілі, дык за яго і не маглі галасаваць.

Не галасавалі мы і за Мосьціцкага, бо гэта чалавек зусім няведамы ў палітычным жыцьці, гэта чалавек навукі, які ў грамадзкім жыцьці ўчасьця ня браў. Яго кандыдатура не прадстаўляе ніякае сацыяльна-палітычнае праграмы. Да таго-ж праф. Мосьціцкі зьяўляецца кандыдатам марш. Пілсудскага, што ў сувязі з вышэйсказаным паказуе, што ён будзе праводзіць праграму марш. Пілсудскага.

Не галасавалі мы і за д-ра Марка, бо ён—прадстаўнік Польскае Партыі Сацыялістычнае. А дзеяльнасьць гэтае партыі ў дастатачнай меры выявілася і скампрамітавалася сваей згодніцкай палітыкай, загубленьнем аграрнае рэформы, ды сваей шовіністычнай ахварбоўкай. Шмат разоў ППС давала доказы таго, што яна здольна толькі да здрады інтарэсаў і даверыя працоўных масаў. Дык за прадстаўніка ППС мы сваіх галасоў не далі.

Група дэпутатаў з радыкальнае лявіцы зьвярнулася да нас, каб мы падтрымалі кандыдатуру д-ра Фідэркевіча, які стаіць на гэткай плятформе: 1) аддача сялянам зямлі бяз выкупу, 2) сацыялізацыя прамысловасьці і 3) самавызначэньне ўціканых народаў, — ды гэтак запраўды выяўляе імкненьні сялян і работнікаў. Дзеля гэтага мы і падалі нашы галасы за д-ра Фідэркевіча, каб гэтым адзначыць нашу солідарнасьць з працоўнымі масамі Польшчы ў змаганьні з польскім капіталізмам і абшарніцтвам.

Кандыдатура д-ра Фідэркевіча афіцыяльна ня была пададзена перад галасаваньнем, бо пад ёй ня было вымаганых законам 50 подпісаў. Ня гледзячы на гэта, мы галасавалі за д-ра Фідэркевіча—у знак салідарнасьці сялян, работнікаў і ўціканых нацыянальнасьцяў, якіх лучыць у вадно сялянска-работніцкі блёк—супраць такога-ж блёку капіталістаў і абшарнікаў на правіцы.

*Бр. Тарашкевіч,*
*Рак-Міхайлоўскі,*
*П. Мятла,*
*Ю. Сабалеўскі,*
*П. Валошын.*

Варшава, 1-га чэрвеня 1926 г.

# Прамова марш. Пілсудскага

## перад сваімі польскімі выбаршчыкамі, прадстаўнікамі Сойму і Сэнату.

28 траўня прэм. Бартэль запрасіў прадстаўнікоў польскіх клюбаў Сойму і Сэнату на канфэрэнцыю, на якой марш. Пілсудскі сказаў наступную прамову (падаем паводле „Кур. Поран.“).

Марш. Пілсудскі пачаў з заявы, што ня зьбіраецца казаць „кандыдацкай прамовы“, хоча толькі высьветліць свой асабісты пагляд на цяжкую ролю Прэзыдэнта і на справу выбараў.

„Ня буду ўваходзіць і ў спрэчкі аб выпадках 1—14 траўня. Рашыўся я на іх сам—у згодзе з уласным сумленьнем, дый ня бачу патрэбы даваць з гэтага справу“.

„Галоўнымі прычынамі сучаснага палажэньня ў Польшчы—яе ўбожства, унутранай і вонкавай слабасьці—былі зладзействы, якія заставаліся бяскарнымі. Над усім у Польшчы панаваў асабісты

ці партыйны інтэрас, запанавала бяскарнасьць за ўсялякія надужыцьці і праступленьні.

„У адроджанай дзяржаве не адбылося адраджэньне душы народу. Калі я вярнуўся з Магдэбургу (з нямецкай турмы) ў Польшчу і ўзяў уладу, якой ніхто ня трымаў у Польшчы, я верыў у адраджэньне народу, — дык, не жадаючы правіць бізуном, я аддаў уладу ў рукі скліканага мной Устаноўчага Сойму, якога пэўна-ж мог і ня склікаць... Аднак-жа народ не адрадзіўся, шуі *) і лайдакі распаношыліся (ў Польшчы). Народ адрадзіўся толькі ў аднэй галіне—у галіне аружнай барацьбы...—у галіне асабістай адвагі і ахвярнасьці на карысьць дзяржавы ў часе вайны...

„У-ва ўсіх іншых галінах адраджэньне не адбылося. Пастаянныя спрэчкі, асабістыя і партыйныя, нейкае дзіўнае распаношаньне бруду дый нейкай бясчэльнай лайдацкай перавагі прадажнага часта элемэнту... Запанавала ў Польшчы маральнае спадленьне людзей. Свабоды дэмакратычныя так надужываліся, што можна было—зьненавідзець самую дэмакратыю".

Размножыўшыяся і запанаваўшыя партыі ў Сойме—кіраваліся проці кожнага, хто рэпрэзэнтаваў дзяржаву. — Першаму рэпрэзэнтанту марш. Пілсудскаму—„абрыдзілі жыцьцё пастаяннай лаянкай і найагіднейшай брахнёй.—„Не зламаўся я ад гэтага, бо я—дужэйшы за вас усіх"...

Другога прадстаўніка Польскай Дзяржавы (Нарутовіча) папросту забілі, а маральныя спраўцы гэтага забойства асталіся бяскарнымі. Трэці (Войцеховскі) — упадаў пад цяжарам мукі з віны Сойму і Сэнату.

„Цяпер варункі ізноў злажыліся так, што я мог-бы не дапусьціць вас да салі—Нацыянальнага Збору, кпючы з вас ўсіх. Але я раблю (яшчэ) спробу, ці можна яшчэ ў Польшчы правіць без бізуна. Я не хачу рабіць нациску, але перасьцерагаю, што Сойм і Сэнат—установы, якія найбольш зьненавіджаны грамадзянствам у Польшчы". „Ніякая фізычная сіла ня будзе паграажаць вам. Я даў гарантыю свабоднага выбару прэзыдэнта і датрымаю слова. Але перасьцерагаю вас: не рабіце з кандыдатамі на прэзыдэнта ніякіх партыйных умоваў. Кандыдат павінен стаяць над усімі партыямі, — прадстаўляючы ўвесь народ. І ведайце, што, калі зробіце інакш, дык я—ня буду бараніць Сойму і Сэнату, калі дойдзе да ўлады вуліца. Бо ня можа правіць у Польшчы чалавек (прэзыдэнт) пад тэрорам шуі, і я гэтага не дапушчу".

„Я абвясьціў вайну (ў Польшчы) ўсім—шуям, лайдакам, забойцам і зладзеям і ў гэтай барацьбе не адступлю ні на крок. Сойм і Сэнат маюць залішне многа правоў ды прывілеяў, а трэба-ж, каб і тыя, што заклікаюцца да ўрадаваньня, мелі больш правоў. Парлямант павінен адпачыць... Хай Прэзыдэнт творыць урад, але—бяз націску з боку партыяў. Гэта—яго права".

„З маей кандыдатурай рабеце, што хочаце... Мне ўсё роўна, сколькі галасоў я атрымаю 2,100,200. Не раблю ніякага націску, каб выбралі канешне мяне. Выбірайце, каго хочаце, але — каб ён быў беспартыйны і годны высокага становішча. А калі-б вы не зрабілі так, як кажу, дык — бачу ўсё для вас у чорных калёрах, а для сябе—у калёрах прыкрых, бо... не хацеў-бы правіць бізуном".

„Мы з войскам аддалі польскаму грамадзянству адраджоную і здольную да жыцьця Польшчу. А што-ж вы зрабілі з гэтай Польскай Дзяржавы? Зрабілі з яе пасьмешышча. Сучасны ўрад гатуецца да績 рознай працы. Але я баюся, што пасьля выбару Прэзыдэнта ўсё пойдзе пастарому. Баюся, што Сойм захоча астацца. Але-ж трэба, как вы, паночкі, разьехаліся на якісь час. Бо павінна-ж зрабіцца нешта новае. Хай Прэзыдэнт на якісь час ня мае Сойму і Сэнату на карку. Трэба яму даць свабоду да стварэньня ўраду і распачацьця працы, за якую пасьля ён будзе адказываць перад Соймам. Бо я не хацеў-бы мець пасьля закідаў за тое, што не давёў да канца пачатую працу і—што бізун ня сьвістаў на вуліцах".

„Мая праграма—гэта зьмяншэньне лайдацтваў і адчыненьне шляху ў Польшчы для чэснасьці... Трэба стануць вышэй партыйных інтарэсаў і даць спачынак дзяржаве і выбранаму Прэзыдэнту... Гэты выбранец павінен ставіць чэсьць вышэй за жаданьне зарабіць некалькі злотых... Што да мяне, дык я не зьмянюся—буду прасьледаваць зладзеяў".

Парадзіўшы сабраўшымся паслам і сэнатарам „падумаць ды пагаварыць між сабой аб усім пачутым", марш. Пілсудскі пакінуў салю.

Газэты сцьвярджаюць, што прамова марш. Пілсудскага „зрабіла на слухачоў вельмі моцнае ўражаньне"...

---

На гэтую канфэрэнцыю ня былі запрошаны прадстаўнікі клюбаў меншасьцяў.

Жыды, якія адразу выявілі сваю прыхільнасьць да кандыдатуры Пілсудскага, абразіліся. Але пасла Грюнбаўма пацешыў пасол-пілсудчык Косьцялковскі, што гэтая канфэрэнцыя мела мэтай „унутранае высьвятленьне"—чыста польскіх спраў... Пасьля азнаямленьня з зьместам прамовы, ясна, што запраўды-ж меншасьцям ня было за што крыўдзіцца: усё, што казалася марш. Пілсудскім, запраўды-ж было скіравана не да „меншасьцяў"...

*) Польскае слова „шуя" азначае найгоршы від нягодніка і раўназначна расейскаму „сволач". — Рэд.

# Новы „пілсудчык".

Як толькі прыйшла вестка, што марш. Пілсудскі перамог рэакцыйны ўрад Вітаса, — цёплая кумпанія, сабраная ў так-званай „Часовай Беларускай Радзе", надумалася зрабіць паварот свайго фронту. Датуль яна йшла ў хвасьце польскае эндэцыі і абшарнікаў, што згодна сцьвярджалі і обстаўскі „Dziennik Wil." і абшарніцкае „Słowo". І вось неўспадзеўкі „доктар" Паўлюкевіч заявіў сябе „саюзьнікам польскае дэмакратыі" і за грошы, дадзеныя з „дыспозыцыйных сум" міністэрства ўнутраных спраў, пачаў аб'яжджаць беларускія вёскі і з дапамогай рознага роду „канфідэнтаў" палітычнае паліцыі, запрудзіўшых Заходнюю Беларусь, слаць тэлеграмы беларускім паслом, каб тыя выбіралі на прэзыдэнта канешне маршалка Пілсудскага.

Панадзеяўшыся на свае сілы, Паўлюкевіч папробаваў выступіць і на запраўдным народным мітынгу, які ўлада вельмі лёгка дазволіла яму склікаць у Баранавічах, хоць ён і не пасол... Але тут яго спаткала рашучая няўдача.

Вось зьмест тэлеграмы, атрыманай соймавым клюбам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады ад прэзыдыуму мітынгу, скліканага Паўлюкевічам 28-га мая ў Баранавічах:

„Ад нейкага часу аб'яжджае Беларускія Крэсы ведамы авантурнік Паўлюкевіч, надужываючы імя маршалка Пілсудскага.

„Прэзыдыум веча, скліканага тым жа Паўлюкевічам 28-га мая, з даручэньня сабраных падае да агульнага ведама, што гэны пан на Крэсах добра ведам шырокім масам і з веча ў Баранавічах быў выгнаны, бо Беларускі Народ не прызнае самазванных прадстаўнікоў, якія ў крэсавых местах выступаюць на вечах ананімна".

Старшыня Прэзыдыуму: (—) **Міткевіч.**

Сэкрэтар: (—) **Палітыка.**

Аб ходзе веча нам наказуюць з Баранавіч:

Калі Паўлюкевіч адчыніў многалюдны сход, дык сабраныя патрэбавалі, каб сход вёў ня сам Паўлюкевіч, які меўся прамаўляць, а выбраны сходам прэзыдыум. Прэзыдыум і быў выбраны ў складзе грамадзян Яўгена Міткевіча (старшыня) і Палітыкі (сэкрэтара).

Пасьля ўступнога слова старшыні веча, якога Паўлюкевіч некалькі разоў памыкаўся—пры агульных пратэстах—перапыніць, распачаў прамову сам „доктар". Але ледзь пасьпеў ён сказаць некалькі фраз, калі падняліся страшэнныя крыкі: вон! ня хочам слухаць! Абурэньне было настолькі аднадушным, што не падняўся ніводзін голас на карысьць новасьпечанага „пілсудчыка", і яму прышлося, схапіўшы пад паху партфэль, сьпешна пусьціцца наўцекі. Выскачыўшы, як ашпараны, на вуліцу, Паўлюкевіч пачаў клікаць паліцыю і прасіць распусьціць скліканы ім-жа сход, бо ён за яго ўжо не адказывае... Паліцыя гэтую просьбу выпаўніла вельмі сквапна і разагнала сабраных.

Няўжо-ж польская дэмакратыя запраўды патрабуе падобных „саюзьнікаў"? Няўжо-ж яна, абвясьціўшы маральную санацыю, будзе далей карыстацца дзеля палітычных мэтаў гэткімі фігурамі, як Паўлюкевічы ды Валэйшы, якіх зрабілі „беларускімі дзеячамі" папярэднія ўрады?

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Дамаганьне амністыі.

Пасьля абвяшчэньня вынікаў выбараў 31 мая група дэпутатаў з радыкальнае лявіцы і нацыянальных меншасьцяў голасна выкрыківала дамаганьне амністыі для палітычных вязьняў.

### Аб дэпутаце С. Баране.

Як ведама, дэпутат Сяргей Баран, засуджаны на 6 гадоў вастрогу ў Беластоцкім працэсе 45, знаходзіцца ў турме ў Горадні, хаця лічыцца пасом Сойму. Вось, у часе Нацыянальнага Збору маршалак Ратай, дужа добра ведаючы аб лёсе Барана, усё-ж выклікаў яго да падачы голасу, а ў газэтах было апавешчана, што дэпутат Баран залічаны да тых, якія не зьявіліся на выбары... без законнае падставы!

### Арышт б. ваен. міністра ген. Мальчэвскага.

У Варшаве заарыштавалі б. ваеннага міністра ўраду Вітаса ген. Мальчэвскага, які будзе адданы пад ваенны суд за тое, што ўзятых у палон у часе варшаўскіх баёў жаўнераў і афіцэраў-пілсудчыкаў абражаў чынна, зрываючы з іх пагоны з літэрамі Пілсудскага ды б'ючы іх па твару.

### Яшчэ аднаго генар. пад суд—за надужыцьці.

Ваенны міністар аддаў пад ваенны суд яшчэ генарала Зімерскага—за надужыцьці пры даставах процігазавых масак.

### А Корфантага звольнілі са службы.

Адзін з найбольш спрытных „нуворышаў" (новых багатыроў, нажыўшыхся ў „адраджонай Польшчы"—на спэкуляцыі ды ўрадавых „пазыках") ведамы пас. Корфанты—па загаду новага ўраду — звольнены з раду вельмі выгадных для яго становішч — дырэктара ды старшыні розных банкаў і паўказён. прадпрыемстваў.

П. Корфанты ізноў набраў у гэтых банках каля паўмільёну „пазычак", якія павыдаваў сам сабе.

## Заграніцай.

### Польшча і балтыцкія дзяржавы.

У сувязі з прапазыцыяй СССР балтыцкім дзяржавам зрабіць палітычную умову аб узаемным забясьпечаньні сваіх граніц — Польшча, як наказуюць з Масквы, запрапанавала тым-жа балтыцкім рэспублікам (Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі), каб тыя ўвайшлі ў ваенны хаўрус з Польшчай, якая і будзе бараніць іх — ад СССР. Фінляндыя аднеслася да гэтае апошняе прапазіцыі ня вельмі прыхільна, а з Латвіяй і Эстоніяй перагаворы адбываюцца далей.

Польскі ўрад пярэчыць гэтай вестцы, — але яна была-б зусім у духу палітыкі п. Пілсудскага...

### Голас Усходняе Прусіі.

Зьезд дзеячоў Усходняй Прусіі пастанавіў трэбаваць ад ураду адабраньня ад Польшчы Данцыга (Гданску) з „калідорам" і—Сілезіі.

На зьезьдзе выступалі аратарамі і афіцыяльныя прадстаўнікі нямецкага ўраду.

### Забастоўка вуглякопаў у Англіі трывае.

Забастовачнае палажэньне ў вугальнай прамысловасьці ў Англіі трывае бяз зьмены.

### Сэнсацыйная вестка.

Вялікую сэнсацыю ў-ва ўсім сьвеце выклікала нясьцверджаная яшчэ дакладна вестка аб тым, быццам знамяніты правадыр англійскай лібэральнай партыі (яе левага радыкальнага крыла), Лёйд-Джордж, кіраўнік Англіі ў часе вялікай вайны,— пакідае лібэральную партыю, якая страціла ўсялякі ўплыў у краі, і—пераходзе ў рады работніцкай партыі.

### Пастанова кангрэсу францускіх сацыялістаў.

Кангрэс францускіх сацыялістаў прыняў — большасьцю 2219 галасоў проці 166—рэзалюцыю, забараняючы сацыялістам уваходзіць у склад буржуазных урадаў, але заклікаючую—падтрымліваць кожны ўрад, які будзе весьці шчырую барацьбу з рэакцыяй, ды працаваць над эканамічным адраджэньнем краю.

Кангрэс трэбуе рашучага ападаткаваньня капіталаў, аздараўленьня валюты, міру ў Марокко й г. д.

### Вайсковая „рэвалюцыя" ў Португаліі.

У Португаліі выбухла новая чарговая вайсковая „рэвалюцыя". Бунт пачалі дзьве правінцыяльныя дывізіі, адразу на поўначы і на паўдні. Камунікацыя з сталіцай перарвана.

Урад запэўняе заграничную прэсу, што хутка здолее раздавіць бунт.

### Канец паўстанчай вайны ў Марокко.

Паводле францускіх вестак, Абд' Эль Крым, адчаяўшыся ў сваіх сілах, зламаны вялізарнай перавагай француска-гішпанскіх войск, здаўся на ласку францускага ўраду... Гэткім чынам гераічнае паўстаньне невялічкага народу проці дзьвюх магутных імпэрыялістычных дзяржаваў — за волю і незалежнасьць—пакуль-што як-быццам скончылася. Пабачым, што зробіць „шляхотная" Францыя з пераможаным народам...

### Перамога незалежнікаў на выбарах у Эгіпце.

На апошніх выбарах у эгіпецкі парлямант вялізарную перамогу атрымалі незалежнікі,—партыя слаўнага народнага правадыра Заглула-пашы, разгромленая тры гады таму англійцамі — пасьля забойства Высокага Камісара Англіі ў Каіры.

Тады, як ведама, англійскі ўрад змусіў Заглула-пашу адыйсьці ад улады. Цяпер новыя выбары ізноў заклікаюць да ўлады гэтага каханага народам, але ненавістнага для Англіі „несьмяротнага" правадыра баявой партыі незалежнасьці Эгіпту. Пасаджаны англійцамі „кароль" ды яго англійскія „дарадцы" страшэнна ізноў напалоханы паваротам Заглула да ўлады. Дык можна спадзявацца новых забурэньняў у краі, які адданы толькі пад „мандат" Англіі Лігай Народаў, ды які сама Англія абвясьціла незалежнай дзяржавай, хоць усьцяж трактуе яго, як сваю—калёнію.

## Да Сяброў Т-ва Беларускае Школы.

Гэтым Цэнтральная Беларуская Школьная Рада просіць паважаных Сяброў Таварыства паклапаціцца ўнесьці ў касу Таварыства належныя Сяброўскія складкі.

УВАГІ: 1) Тыя Сябры, якія маюць акрэсьлены заробак, згодна пастановы Агульнага Сходу Сяброў Таварыства 15. XI. 1925 г., уносяць 1 процант месячнага заробку, а тыя сябры, якія ня маюць акрэсьленага заробку, уносяць ня меньш як 50 грош. у месяц. 2) Грошы прымаюцца ў Школьнай Радзе (Віленская вул. № 12—6) ад 9 гадз. раніцы да 12 гадз. дня.

**Цэнтр. Белар. Школьная Рада**
**Вільня, Віленская 12—6.**

28 траўня 1926 г.

# ХРОНІКА.

**Ад Рэдакцыі.** З розных месц нас пытаюцца, чаму мы не надрукавалі канца апісаньня падарожы пасла Мятлы ў Радавую Беларусь.—Вось жа падаем да агульнага ведама, што канец гэны быў намі зьмешчаны ў адным з нумароў у часе перавароту ў Польшчы, і ўстаноўленая ў тыя дні папярэдняя цэнзура не дазволіла яго друкаваць.

Што-ж датыча запытаньняў, чаму мы не адзначаем „*Дня каапэрацыі*", дык з стацьцёй, пасьвячонай гэтаму пытаньню, пад загалоўкам „*Дух каапэрацыі*" — сталася акурат тое самае...

**Суд над грам. Ю. Саковічам.** 1/VI у акружным судзе ў Вільні адбыўся суд над грам. Саковічам, матурыстам Віленскай Беларускай Гімназіі.

Абвінавачвалі гр. Саковіча ў процідзяржаўнай дзейнасьці і прыналежнасьці да рэвалюцыйнай арганізацыі.

Старшынёю суду быў п. Едзевіч, абвінавачваў пракурор Саковіч.

Бараніў гр. Саковіча адвакат п. Родзевіч.

Сьведкамі абвінавачваньня былі толькі агенты дэфэнзывы.

Засудзілі грам. Саковіча на два гады вастрогу, але звольнілі яго да апэляцыі пад залог трох тысячаў злотых.

**Інструкцыі для Акружных Школьных Радаў.** У зьвязку з зацьверджаньнем Уладаю Статуту Таварыства Беларускае Школы ў Вільні на ўсю тэрыторыю Польшчы, апрацоўваецца і хутка будзе выдана інструкцыя, як закладаць Акружныя Школьныя Рады.

На падставе новага Статуту, Таварыства Беларускае Школы магчыме закладаць прыватныя беларускія школы, бібліятэкі і чытальні ў паветах Навагрудзкага, Палескага і Беластоцкага ваяводзтваў, у якіх да гэтага часу ня мела права, бо Статут яго быў зацьверджаны толькі на Віленшчыну.

**Замена назову.** Назоў **„Цэнтральная Беларуская Школьная Рада"** Таварыства Беларускае Школы ў Вільні паводле новага Статуту заменен на: **„Галоўная Управа"** Таварыства Беларускае Школы ў Вільні.

**З Віленскае Беларускае Гімназіі.** Выпускныя экзамены ўжо скончыліся—для восьмае і сёмае клясы адначасна, бо адгэтуль агульны курс навукі будзе канчацца ў сёмай клясе, а ў восьмай будуць вучыцца толькі тыя, што захочуць ісьці на вучыцялёў, ці рыхтавацца да матуральных экзаменаў.

З абедзьвюх клясаў сёлета выйшла 35 вучняў: 21 з сёмае і 14—з восьмае клясы.

На разьвітаньне ў суботу вучні наладзілі апошні „суботнік" у гімназічнай салі, дзе адыгралі п'есу Ф. Аляхновіча „Калісь", дапоўніўшы праграму дэклямацыяй, музыкай і танцамі на сцэне. У нядзелю-ж у тэй-жа салі адбылося сардэчнае разьвітаньне вучняў з вучыцялямі—за скромнай супольнай вячэрай. У цэлым радзе прамоў наша моладзь выявіла гарачую ўдзячнасьць сваім узгадавальнікам, якія прабудзілі ў маладых душах імкненьне да высокіх людзкіх ідэалаў, разбудзілі нацыянальнае пачуцьцё і грамадзкую сьвядомасьць.

**Новая беларуская часопісь.** У Празе Чэскай выйшаў № 1 часопісі пастуновага студэнцтва „Прамень".—Гэта—непэрыядычнае выданьне, фармату сшытка,—з багатым зьместам, які складаецца з раду паважных стацьцей, літэратурных твораў і хронікі.

Галоўную ўвагу часопісь мае зварачаць на жыцьцё Заходняе Беларусі, Латвіі і беларускае эміграцыі.

Аб новай часопісі йшчэ пагаворым у чародным нумары.

**Афіцыяльны курс грошы на 2 чэрвеня.** Даляр — 10 зл. 90 гр. Залаты рубель — 5 зл. 59 грошы.

2. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 11,00, рубель—5,80, чырвонец—43 зл.

## Ганна Малойла †

Яшчэ адна ахвяра на алтар нашага Адраджэньня—ад нашых беларускіх культурна-асьветных працаўнікоў.

У ноч з 25 на 26 траўня гэтага году ў вёсцы Круты-Бераг, Нясьвіжскага павету памерла ад сухотаў быўшая вучыцелька Клецкай Беларускай Гімназіі грамадзянка **Малойла.**

Дачка селяніна, Ганна Малойла з вялікім трудом і перашкодамі дабілася сярэдняй асьветы ў часы сусьветнай вайны і захапілася адраджэнскім рухам свайго народу, з усім пылам маладой дзяўчыны аддаючыся на служэньне яму.

У 1921 годзе яна слухае беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні; у 1922 годзе ўжо працуе, як вучыцелька, у захаваўшайся неяк у вёсцы Запольле Нясьвіжскага павету пачаткавай беларускай школе. Глухая, цёмная вёска — але для энэргічнай працаўніцы тым лепей: там больш працы. І відаць, гэтая праца яе была карыснаю для вёскі, бо ў 1922 годзе, па волі ўлады, школа гэтая, як беларуская, зачынілася, а беларуская вучыцелька была выкінена з урадавых вучыцялёў, як элемэнт шкодны для „państwa".

У 1922—1923 годзе Ганна Малойла, таксама як вучыцелька, працуе ўжо ў малодшых клясах Нясьвіжскай Беларускай Гімназіі. Варункі працы немагчымыя: цеснае, сьцюдзёнае памяшчэньне, поўная матар'яльная незабясьпечанасьць, варожыя адносіны да гімназіі, асабліва да вучыцялёў беларусаў, з боку ўлады, а таксама і з боку застаўшыхся ў месьце абломкаў расейскай інтэлігенцыі ня стрымалі маладой дзяўчыны; наадварот, яна прымае самы чынны ўдзел ва-ўсіх праявах жыцьця гімназіі, як інстытуцыі культурна-асьветнай, нацыянальна-беларускай. Думка стварыць прыватную беларускую школу, калі зачынены ўрадовыя, давала ей сілы на цяжкую працу.

Калі беларуская гімназія на 1923—1924 год не атрымала канцэсіі, вучыцелька Ганна Малойла аддалася працы ў роднай вёсцы. Групавыя заняткі з дзяцьмі, з вясковай моладзьдзю, арганізацыя беларускіх вечарын, пашырэньне сьвядомасьці сярод люднасьці былі яе сьвятым абавязкам перад Бацькаўшчынай.

За гэтаю працаю яна так папсавала ў вачох улады сваю палітычную апінію, што кожны яе крок сачылі некалькі пар вачэй шпікоў—ды рабіліся вобыскі.

Дорага абышлася гэтая праца і ей самой. Калі ў 1924 годзе быўшая Нясьвіжская Гімназія адчынілася ў Клецку і вучыцелька Ганна ізноў прыехала на працу ў ей, то сілы дзяўчыны ўжо былі падорваны, чулася нешта ня добра ўперадзі:

Урэшце арышт хворай у часе павальнай аблавы на сьвядомых беларусаў, арганізаваны навагрудзкім ваяводаю у пачатку красавіка ў 1925 г., даканаў маладую працаўніцу. Звольненая праз тыдзень з вастрогу вучыцелька Ганна ўжо не вярнулася на працу ў гімназію. У летку і ў восень 1925 г. яна лечыцца ў санаторыі ў Вільні, крыху папраўляецца, ды бярэцца ізноў за працу ў роднай вёсцы. Але не надоўга блісnуў прамень сонца для яе. На прадвесьні яна ізноў занапала, хвароба стала хутчэй прагрэсыраваць і ў ночы з 25 на 26 траўня яна сканала.

Памёр малы чалавек, ня ўсім вядомы! Але страта панесена вялікая!

Ня многа яшчэ гэтакіх шчырых і бескарысных дзяцей мае наша Бацькаўшчына, якою была для яе вучыцелька Ганна. Яна гарэла агнём шчырага і моцнага каханьня да яе. Аддаючы ўсю сябе на працу для Бацькаўшчыны, яна для сябе нічога не жадала. І пала ахвяраю гэтага каханьня, як палі і другія раней за яе, лепшыя дзеці Беларусі!

На хаўтуры яе шмат зышлося людзёў і з суседніх вёсак, каб аддаць апошні доўг нябожчыцы, а ўзгадованыя ею дзеткі і моладзь прынясьлі на яе магілу вянок з жывых кветачак!

Памерла вучыцелька, але дух яе жыве ў яе-ж гадунцох!

**Калега.**

## Тэлеграма пасла Рака-Міхайлоускага да Міністра Унутраных Спрау.

Пасол Рак-Міхайлоўскі зьвярнуўся да міністра ўнутраных спраў з тэлеграфным паведамленьнем аб ніжэйпаданым факце:

„Абшарнік Хэлховскі прадаў незаконна нейкаму Казлоўскаму пасьвішча, якое ад няпамятных часоў было ў карыстаньні сялян з вёскі Дарохі, Гарадоцкае гміны, Маладэчанскага павету.

„Факт гэты раўназначны з пазбаўленьнем сялян вёскі Дарохі магчымасьці жыць, бо гадоўля жывёлы зьяўляецца падставай сельскае гаспадаркі. Дык сяляне горача запратэставалі проці гэтага беззаконьня абшарніка. — Калі новы ўласьнік выслаў на сказанае пасьвішча плугі, каб заараць яго, сяляне ўсяе вёскі сабраліся і пробавалі перашкодзіць гэтаму.

„На падмогу земляўласьніку і пану Казлоўскаму ўраз-жа прыбылі атрады коннае паліцыі з Гарадка і Караблян. Увесь дзень паліцыянты сілай разганялі сялян, якія распачліва баранілі сваіх правоў. Уканцы арыштавалі 8 мужчын і 1 жанчыну".

Пасол Рак-Міхайлоўскі зварачае ўвагу міністра на незаконнасьць выступленьня паліцыі ў справе, у якой абшарнік меў права толькі зьвярнуцца з скаргай на сялян у суд. Пасол просіць ураз-жа загадаць, каб арыштаваныя сяляне былі звольнены і каб паліцыя была прыцягнена да адказнасьці за незаконныя ўчынкі.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар*

„Беларускае Справы", не адмоўце ў Вашай газэце зьмясьціць наш ніжэйпаданы пратэст:

### Пратэст.

У апошніх месяцах мінулага году і першых месяцах бягучага нас, былых вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі, страшэнна ўзбурыў факт афіцыяльнага паходу дэфэнзыўных „беларусаў" і іхняга органу „Беларускае Слова" проціў нашага вучыцеля, дужа паважанага грамадзяніна Антона Луцкевіча, — як духовага правадыра Беларускага Адраджэньня. Рэзультатам гэтага подлага паходу прадаўшыхся „беларусаў" было тое, што Кураторыум Віленскае Акругі забараніла грам. Антону Луцкевічу выкладаць беларускую мову ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Дзеля вышэйшага мы, б. вучні VIII і VII клясаў Віл. Бел. Гімн., пазбаўленыя вучыцеля роднае літэратуры ў нашай Гімназіі, пратэстуем:

1) Проціў дэфэнзыўнага паходу купленных „беларусаў" на нашага вучыцеля грам. Ант. Луцкевіча.

2) Проціў беспадстаўнага пазбаўленьня грамадзяніна Антона Луцкевіча права выкладаць беларускую мову ў нашай Гімназіі праз Віленскі Кураторыум.

Фр. Грышкевіч, З. Шэршань, С. Артаеў, А. Муха, С. Яцкевіч, А. Мятла, В. Радзюк, Ст. Станкевіч, М. Пецюкевіч, Я. Марцінчык, У Сурага, Хв. Ільяшэвіч, К. Трэпка, Ю. Шустэр, Ю. Саковіч, В. Станкевіч, В. Каласоўская, Я. Дрозд, А. Голуб, М. Яцкевіч, Г. Гайко, Ксеня Забаронак, Э. Залкінд, В. Пракаповіч, В. Евукова, Т. Мацьвеява, С. Асаевіч, Карнаух.

1./VI. 1925 г.

## Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту.** **Рэдакцыя.**

### Доля парабка.

(Пархвенаўшчына, Дзісенскага пав.).

Пэпэасы прышлі ўжо і да нас у гэтым годзе. Найбольшую ўвагу Польская Партыя Сацыялістычная зьвярнула тут на дворных парабкоў, людзей нічым незабясьпечаных і забітых горам. Дворныя парабкі, як вядома, выходзяць з беззямельных сялян, пераважна яны ня маюць навет уласнай хаты. Папаўшы ў двор, які дае яму хату і некалькі пудоў збожжа на пражыцьцё, такі чалавек пападае ў поўную залежнасьць ад пана і стаецца прадметам страшнага вызыску. Сямейных людзей вызысківаюць яшчэ больш, бо паны добра разумеюць, што ім трудней кратацца з мейсца. Ісьці ў доўгую дарогу шукаць сабе працы, хлеба і страхі на галаву — такі чалавек не пасьмее, бо, пакуль ён іх знойдзе (калі знойдзе наагул), дзеці і жонка яго памруць — з голаду і холаду. За сем пудоў збожжа ў месяц (гэта становіць 24 зл. 50 гр.) і сякую такую хібарку на жыльлё паны змушваюць такіх людзей, як зіму, так лета на сваей адзежы і ежы працаваць ад цямна да цямна, не зважаючы ні на дождж ні на сьпеку і навет часта-густа ў сьвята, зносячы цярпліва зьдзек і паняверку ад розных панскіх цівуноў і аканомаў.

З ростам, аднак, актыўнасьці агульна-работніцкага руху і нарастаньнем у работніцкіх масах сьведамасьці сваіх правоў на жыцьцё, як і кожнага іншага грамадзяніна і чалавека, — дворныя парабкі і нашага закуцьця пачалі варушыцца і думаць аб паляпшэньні сваей долі; пайшлі гутаркі аб арганізацыі саюзу дворных парабкоў і роботнікаў. Тут і зьявіліся да нас ППС са сваім „Związkiem Robotników Rolnych", яны вельмі энэргічна ўзяліся тварыць арганізацыі. У ход было пушчана ўсё—навет спаіваньне людзей гарэлкай. (Такую справу рабіў сябра ППС і дэлегат іхняга „рольнага" саюзу Адам Шэшко з рымарам Пархвенаўскага двара Пpануком Бажэйкам каля запуст 1926 г.).

Але-ж ППС усюды адзінакавыя. Ім патрэбны галасы работнікаў і парабкоў вясковых пры выбарах, а не запраўдная абарона інтарэсаў працуючага люду. Гэта мы пазналі па такім здарэньні.

Нядаўна зьявіўся ў нас назначаны п. Слатвінскім новы „rządca" і ўсіх „вальнадумцаў бальшавікоў" і тых, хто іх слухаў, бязлітасна павыкідаў са службы, заявіўшы, што ён так зробе і з тымі, калі хто хоць троху заікнецца аб павялічэньні платы, ці пасьмее запісацца ў якісь там работніцкі саюз, або не паслухае калісь загадаў пана. Гэты новы прыганяты п. Слатвінскага забараніў парабкам і работнікам сьвяткаваць 1-га мая і 2 (нядзеля), а на 3-га мая (сьвята польскіх абшарнікаў, фабрыкантаў і манархістаў) быць усім бяз вынятку ў касьцеле.

Бараніць гаротнікаў ад гэтага зьдзеку не зьявіўся Пэпэсаўскі „Związek". Ён пальцам ня кіўнуў у гэтай справе, ён не навучыў парабкоў, што рабіць, як бароцца.

Не запісывайцеся-ж людзі ў саюзы ППС: яны нам не памогуць палепшыць жыцьцё, але будуць вадзіць нас за нос, як гэта робяць з польскімі работнікамі, слухаючы іх. Арганізуйцеся ў свае клясавыя саюзы, закладайце гурткі Белар. Сялянска-Работніцкай Грамады.

**Б. Свой.**

### Хто, як і чаго нас вучыць?

(Пархвенаўская гм. Дзісенскага пав.).

Школы беларускай, ня гледзячы на ўсе нашы дамаганьні, нам не далі. Але затое польскіх школ тут маем мы так многа, што аж дзяваць іх ужо няма куды. Дзеці ісьці ў школу ня хочуць—іх яна ня цікавяць, ды й бацькі пасылаць ня хочуць, бо да нас пасылаюць самых найгоршых вучыцялёў, у якіх—замест чаго добрага—дзеці вучацца толькі курыць, маніць, ашуківаць, навет зьдзеквацца адзін з аднаго і г. д.

Вось прыклады:

У 1924 — 1925 г. (ня помню ўжо якога месяца і дня) ў паказанай Пархвенаўскай школе ладзілася кіраўнікам яе публічная патрыятычная вечарына „на карысьць бедных вучняў“. Народу многа і ахвяры вялікія. Некаторыя (напр. п. С. з Ясяўшчыны), даюць па 100 зл. Вось-жа тыя ахвяры, зложаныя добрай душой і шчырым сэрцам на карысьць бедных вучняў, арганізатары пасьля робяць сабе „ўгашчэньне“,—і вучні гэта бачаць і ведаюць. Вучні ў сваіх маладых сэрцах запісалі сабе гэта на векі.

У тым-жа самым школьным годзе некалькі старэйшых і адважнейшых вучняў гэтай-жа школы (Князевіч і інш.) зварачваюцца да яе кіраўніка, каб ён пазволіў ім зладзіць у сьценах школы вечарыну пабеларуску (хацелі гуляць „Птушку шчасьця“). Кіраўнік з абурэньнем іх ад сябе праганяе, загадываючы адначасна чытаць толькі польскія кніжкі, якія і выдаюцца з школьнай бібліатэкі.

Ня менш прыкладная і школа ў Вознаўшчыне, тварцом і закладчыкам якой ёсьць Каетан Гайковіч. Доўга мяняла гэта школа вучыцялёў—спачатку прыватных, пасьней урадавых, з якіх некаторыя былі садысты (сумная і горкая праўда, бо на аднаго з іх сам Гайковіч жаліўся інспэктару ў 1923—1924 г.), а іншыя былі канфідэнты паліцыі і г. д. Наастатку прыслалі „wzorowego“ вучыцеля, неякага п. В. І сапраўды гэта „wzorowy“ п'яніца і хабарнік. Усю сваю пэнсію ён прапівае, а адзяецца і жывіцца з усей сваей вялізарнай сям'ёй коштам вучняў. Безцэрамоннасьць яго ня мае ніякіх граніц і даходзе да таго, што ён у школе загадвае вучням прынасіць яму яйкі, масла, сланіну і г. д. і часта-густа навет загадывае, сколькі і чаго каторы з іх мае прынясьці. І гора таму вучню, які не даставіць вучыцелю вымаганага. На гэтым груньце цьвіце мана і ашуканства. Мне самому прыходзілася спатыкаць дзяцей, якія у той час, калі ім трэба быць у школе, бадзяюцца па полі, або па чужых хатах. І ўсякі раз на маё пытаньне, чаму яны ня ў школе, спачатку чырванеюць і маўчаць, ды толькі пасьля паволі паказываюць сапраўдную прычыну: вучыцель загадаў прынясьці яек, ці чаго іншага, а маці гэтага ня мае, дык і не дала,—і дзецянё, каб яго ня лаяў вучыцель, або не паставіў на калені,—ў школу ня ідзе, але з дому выходзе быццам-то „ў школу“.

Але на гэтым справа не канчаецца. Сабраўшы бацькоўскі камітэт, гэты „вучыцель“ безцэрамонна загадывае бацьком зьнясьці аўчынак на кажухі для яго сям'і, воўны на рукавіцы і шкарпэткі і г. д. А беднага шаўца Мацкевіча, у доме якога месьціцца школа і дзеці якога ходзяць таксама ў гэтую школу, змушае дарма шыць і ладзіць яму і яго сям'і вобуў, — каб лепш вучыў дзяцей.

Нахальства гэтага „сяўца польскай культуры“ дайшло да таго, што, калі некалькі тыдняў назад у яго няздлічанай сям'і прыбыў яшчэ адзін новы сябра, то ён зараз-жа аб'явіў сялянам, хто што і колькі чаго павінен даць на яго нарадзіны і хрысьціны, і быў страшэнна абураны, што „te chamy“ (гэтыя хамы) так доўга ня йдуць на паклон да яго наймалодшага сына і нічога не нясуць...

І такіх прыкладаў працы „oświatowej“ панасыланых да нас вучыцялёў бяз канца і пачатку. І вучыцялёў гэтых да нас насылаюць усё больш і больш. Навет дзе і вучняў не хапае (як ў Вознаўшчыне) да патрэбнага ліку, вучыцялі цяпер ужо па два.

Але бедным беспрацоўным вучыцялём—беларусам, (хоць яны ня п'яніцы і не хабарнікі і маюць патрэбныя кваліфікацыі) інспэктар мае адзін адказ: „brak wakansów“ (няма вольных месц) (нястача вакансіяў)

**Б. Свой.**

## Сьвяткаваньне І-га мая.

(Косаўшчына).

У нас перад першым мая ўлада ўсімі мерамі хацела стэрарызаваць працоўных. У „западозраных“, а пераважна ў тых, хто чытае „Беларускую Справу“, адбыліся вобыскі, праўда, арыштаў ня было.

У дзень „Сьвята працоўных“ рабачаі з тартакоў у Івацэвічах, ня гледзячы, што ўласьнікі ў гэты дзень за работу давалі надвышку, — працаваць не пайшлі. Іх сумленьне не пазволіла за грошы прадацца капіталу, не пазволіла здрадзіць інтарэсаў рабачаяў усяго сьвету.

І слава ім за гэта! **Ясень.**

# З Радавае Беларусі.

## Беларускае Т-ва Культурнай сувязі з заграніцай.

7-га красавіка ў Менску заснавалася „Беларускае таварыства культурнае сувязі з заграніцай“.

Патрэба заснаваньня падобнага таварыства была ясна беларускаму грамадзянству ўжо даўно. Калі справа ўтварэньня дзяржавы і замацаваньня гаспадарчага ўздыму сталася справай рэальнай, калі ў гэтай гліне творчыя сілы беларускага народу дасягнулі значных заваяваньняў, — пытаньне культуры і культурных дасягненьняў стала на парадак дня.

Апрача азнаямленьня працоўных Радавае Беларусі з тымі культурнымі дасягненьнямі, якія робяцца на Захадзе, перад памянёным таварыствам ляжыць спэцыяльная задача па азнаямленьні грамадзянства заходніх дзяржаў з тымі дасягненьнямі, якія зроблены ў самай Радавай Беларусі і па барацьбе з тымі варожымі беларускаму адраджэньню сіламі, якія „культурна“ дзеюць па той бок граніцы.

Эўропа амаль нічога ня ведае аб Беларусі. Ня толькі для рабочага ці селяніна ў Нямеччыне, ці Францыі,—але і для сярэдняга інтэлігента ў новай прыбалтыцы істота Радавае Беларусі і сэнс беларускага адраджэньня зьяўляюцца чымсьці далёкім і мала зразумелым. Можна з пэўным правам сказаць, што аб усім гэтым на Захадзе знаюць значна менш, чымся мы знаем аб цэнтральнай Афрыцы.

Разам з тым культурна-грамадзкая праца таварыства будзе мець сваім вынікам аслабленьне варожай прапаганды, якая вядзецца ў стасунку да Беларусі за кардонам рэакцыйнай прэсай—у першую чаргу расейскай і польскай. Трэба зазначыць, што „барацьба за Беларусь“ у навуцы і літаратуры вядзецца сёньня на Захадзе ня з меншай, а можа з большай упартасьцю, чым раней. Амаль штодня польская прэса і польская навука, шукаючы апраўданьня сваёй палітыкі ў Заходняй Беларусі, даводзяць Эўропе, што ніякай Беларусі наогул няма, што беларускі народ ёсьць рэч штучная, выдуманая Камінтэрнам, што беларускі адраджэнскі рух—ёсьць „бальшавіцкая інтрыга“ і г. д. На свой капыл патрыятычная расейская прэса даводзіць, што Беларусь ёсьць „исконно-русская земля“, што беларусы—гэта тыя-ж „русские“, а беларуская мова—„наречие единого русского языка“.

Ня дзіва, што сьледам за імі вельмі часта эўрапейская навука і грамадзянства трымаецца погляду адносна Беларусі актыўных чорнасотніцкіх русіфікатараў, ці гэтак-жа актыўных палёнізатараў. Супроць гэтае шкоднае прапаганды ў Эўропе нічога ня робіцца: абаронцаў беларускай ідэі сярод чужаземных культурных сіл без адпаведнай ініцыятывы чакаць трудна, а сілы Заходняй Беларусі, а тым больш дробнай і частка зьбітай з панталыку беларускай эміграцы, — занадта слабыя. Гэта задача па сілах толькі новаствbooранаму „Таварыству культурнага зблізкэньня“, з сядзібай у Менску.

# Пісьмо з Піншчыны.

7/IV—26 г. у Пінску адкрыўся аддзел Віленскага Беларускага Каапэратыўнага Банку, на адкрыцьцё якога прыбыло некалькі дзесяткаў сяброў Банку з Пічшчыны, якія былі прыняты яшчэ праз Вільно.

Адкрыцьцё гэтага Банку мы, Пінчукі, павінны прывітаць, як найпрыхільней, дзеля таго, што Банк зьяўляецца першай аргавізацыяй, якая пачынае гуртаваць працоўных беларусаў хоць на эканамічным груньце.

Хаця аддзел Банку ня больш месяца працуе ў Пінску, мы бачым, што ўжо каля 150 пазык дано сябром, а запісалося каля 300 сяброў. Пішучы гэтыя цыфры, я хачу сказаць, што ў нас у Піншчыне хоць і мала, а зразумелі, што шляхам каапэрацыі мы можам стаць на цьвярдейшы грунт і акрэпнуць. Важна таксама тое, што апрача помачы мы яшчэ будзем чуць сваю родну мову, што з намі не гавораць там папанску, а на нашай роднай беларускай—„мужыцкай“ мове. А каб гэты Банк быў і далей нашым мужыцкім, трэба нам усім сялянам запісацца сябрамі Банку і гэтым узмацніць нашу арганізацыю. Ніхто нам збоку не паможа. Мы павінны адзін аднаму працягнуць сваю мазольную руку і тады яе трудна будзе расчапіць, бо яна не такая гладкая і сьлізкая, як панская ад тлустасьці. Дзеля гэтага ўвесь сьвядомы элемэнт як з работнікаў і сялян, так і інтэлігенцыі павінен увайсьці сябрамі Банку, каб узмацніць яго.

Беларускі інтэлігент! ты павінен кінуць панскія замашкі і не глядзець звысока на сваіх меншых братоў, бо—часам і меншы брат, як падрасьце, бывае большы і харашэйшы ад старшага! Ты інтэлігент павінен стануць на чале і кіраваць усім рухам, ды каб на цябе не глядзеў селянін і рабочы, як на панка, а на роднага брата. Інтэлігент! ідзі ў каапэрацыю, кіруй ею. Стыдна прызнацца, але ў нас на 300 сяброў толькі бачым каля 5 інтэлігентаў. Дзе-ж наша інтэлігенцыя? дзе-ж тыя сялянскія сыны, якія перад вайной выйшлі з вёскі да места ўчыцца? і яны хаваюцца недзе па задворках...

Дык давайце-ж, браткі сяляне, работнікі і інтэлігенты аб'яднаемся каля сваей арганізацы, каля свайго—Беларускага Каапэратыўнага Банку, давайце-ж у ее, як адзін, пайдзем і запішамся сябрамі пінскага аддзелу гэтага Банку, паможам яму акрэпнуць, а як ён акрэпне—узмацуецца, то тады і мы будзем мець з яго больш карысьці.

Памятайце, што ў арганізацыі сіла, што з намі будуць лічыцца, калі мы будзем стаяць усе за аднаго і адзін за ўсіх!

* * *

Пінскі аддзел Банку знаходзіцца ў Пінску, пры Дамініканскай вул. № 13. Адчынены ад 10 да 1 гадзіны. Каб быць сябром, трэба злажыць дэкларацыю, унесьці 5 зл. на арганізацыйныя расходы і 25 зл. сяброўскіх, сяброўскія 25 зл. можна атрымаць назад у канцы кожнага году, хто захоча выпісацца; сябрам Банку ўдзяляецца пазыка па $1^1/_2$ % і 2 % ад сотні месячна, пазыка даецца на працяг да 8 месяцаў. **Пінчук.**

# Юрыдычныя парады.

**Атону Касатаму.** 1) *Запытаньне*: Ці можна сыскаць грошы, зложаныя ў касе ашчаднасьці ў 1916 годзе?

*Адказ*: Пакуль што, такіх грошы яшчэ не зварачваюць.

2) *Адказ*: Перш трэба назначыць апякуноў, а пасьля рабіць купчую.

**Е. Зяновічу.** Калі маеце гэную расьпіску, дык перапішыце яе і прышліце, тады дадзём параду; калі расьпіскі ня маеце, дык дахадзіць зямлі ня можна.

Каб зволыніліі ад падаткаў, зьвярніцеся ў гміну і да скарбовага ўраду; ужо заплочаныя падаткі можна дахадзіць судом ад таго, чыя цяпер зямля.

**С. Семашкевічу.** На сэрвітут павінен быў быць дакумант. На зямельнага Камісара можна жаліцца ў Зямельны Урад у Горадні.

**М. Вайцэвічу.** На дзяцей даць ня могуць.

Зьвярніцеся ў Банк па адрасу: Вільня, Віленская вул. № 8 Беларускі Каапэратыўны Банк.

**Ю. Велічу.** *Запытаньне*: Я заарэндаваў 3 дзесяціны зямлі на пяць гадоў. Кантракт сьпісаны пры солтысу і двух сьведках на простай паперы і нікім не зацьверджаны. Я карыстаўся зямлей адзін год, а цяпер гаспадар хоча адабраць у мяне сваю зямлю. Што рабіць?

*Адказ*: Калі гаспадар будзе адбіраць зямлю, дык можна падаць у суд. Кантракт мае сілу.

**М. Казлу.** *Запытаньне*: З 1911 па 1922 год я служыў на Лібава-Роменскай чыгунцы. З маей пэнсіі вылічалі 6% у пансіённую касу, на выпадак звальненьня тыя грошы мелі мне вярнуць. У 1922 годзе я, як „бежанец“, зволыніўся са службы і тых грошы не атрымаў.—Ці магу дахадзіць звароту тых грошы і, калі можна, то як гэта зрабіць?

*Адказ*: Папрабуйце зьвярнуцца ў Чыгуначную Дырэкцыю ў Вільні; але з гэтага, бадай усё роўна, нічога ня выйдзе.

**Падпішчыку № 1863.** У Вашым пісьме надта мала фактычных даных, каб можна было даць адказ: трэба ведаць, ці гэта быў „сэрвітут“, ці „супольные пасьвішча“, і ці маеце які дакумэнт?

# Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад: — Аляксандра Бізюка, Яна Матусэвіча і Мацея Вераб'я—**па 1 злотаму.**

Ад: — В. Катовіча, Яна Глобажа, Яна Балбота, Яна Багушэвіча, Казіміра Саковіча, Аляксандра Жылінскага, В. Місюля, Міхала Сурмача, Яна Тадаровіча, Яна Міхайлава, Язэпа Цыунэля, Аляксандра Руткоўскага, І. Шэваха, М. Цыкорнага, Я. Капача, Пятра Голуба, Уладзіміра Дуброўскага, Сымона Дарашэвіча, Уладыслава Гарбача, Барыса Скарбеша, Андрэя Маляўкі, Мікалая Родзевіча, Я. Горскага, Яна Венскага, Антона Гедзіча, Паўла Дацкевіча, Канстантага Хілімонюка, „Беларускай Кавярні“, Аляксея Ярмаловіча, Пятра Лянкевіча, Яна Самахвала, Базыля Божкі, Ігната Сьліўкі, Т. Белановіча, Яна Уласава, Уладзіміра Куніцкага, Васіля Саўчыца, Тодара Пілецкага — **па 2 злотых.**

Ад: — М. Явіта, З. Высоцкай, Якуба Валчка і Уладыслава Шляхцюка—**па 2 зл. 50 гр.**

Ад:—Пятра Гульніцкага, Е. Баравіка, Аляксандра Якубоўскага, Гальяша Дымшы, Антона Сушкі, Пятра Мароза, Аўгена Каторына—**па 3 злотых.**

Ад:—Сымона Сяляўкі, Гальяша Ступніцкага, Сымона Коктыша, Міхала Галенды, Пятра Кажуха, Міхала Кабака—**па 4 злотых.**

Ад:—Яна Шыціка, Аўгена Мамчыца, Аляксандра Чыжэўскага, Ігната Скабеска. Сьцяпана Пагуды, Міхала Сайчыка, Сьцяпана Гаруса—**па 5 злотых.**

Ад: — Марка Рудзяка, Аляксандра Сакаловіча, Ганны Барадзінай, Яна Шатроўскага — **па 6 злотых.**

Ад: — Міхала Тымашэвіча, Яна Ваські, Сымона Раўнэйкі і Наваграна—**па 8 злотых.**

Ад:—Т. Пальчэўскага і Ул. Шуманскага — **па 10 злотых.**

Ад:—Аляксандра Тарасюка і А. Міткевіча—**па 3 злот. 50 гр.**

Ад:—Мікалая Губэра 20 франкаў=6 зл. 8 грш., Базыля Башкі і Рыгора Варановіча — па 1 зл. 50 гр.

Ад:—Аляксандра Вашкевіча—5 зл. 50 грошы.

Ад:—Гальяша Опалькі—8 зл. 50 грошы.



Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.** Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**